# ІВЕЙСКАЯ КРЫНІЦА

ВЫДАНЬНЕ ІВЕЙСКАЙ РАЁННАЙ РАДЫ БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ „АДРАДЖЭНЬНЕ" №1 14.04.1990


## АД РЭДАКЦЫІ

Шаноўны чытач! Вы трымаеце ў руках першы нумар нашае газэты, якая выдаецца раённай Радай БНФ. Але гэта ня значыць, што ня членам БНФ шлях на яе старонкі зачынены. Запрашаем усіх пісаць нам аб сваіх праблемах і посьпехах і тым самым прыняць актыўны ўдзел у стварэньні газэты. Мы не прэтэндуем на ісьціну ў апошняй інстанцыі, але ўпэўнены, што разам з Вамі зможам хаця б крыху наблізіцца да яе. Матар'ялы, якія будуць зьмяшчацца ў газэце, не абавязкова будуць супадаць з думкай рэдакцыі. Нараджэньне нашае газэты супала з Днём Уваскрасеньня Хрыстова. Віншуем Вас з гэтым вялікім сьвятам і жадаем міра і шчасьця Вашаму дому.



## ХРЫСТОС УВАСКРОС !

У пасланьні сьвятога апостала Паўла да карынфянаў, якія ня верылі ва Уваскрасеньне Ісуса Хрыста, ёсьць словы:"Калі Хрыстос не ўваскрос, дык і навука наша дарэмная, дарэмная і вера вашая"(І Кар. 15 14).

Бясспрэчна, што Уваскрасеньне Хрыстова зьяўляецца падмуркам усяе нашае веры. Калі б не было ўваскрасеньня, то сёньня не было б ні хрысьціянства, ні Царквы Хрыстовай. Быць хрысьціянінам — значыць, у першую чаргу, верыць, што Ісус з Назарэту, якога ўкрыжавалі па загаду Понцкага Пілата, уваскрос зь мёртвых на трэці дзень і вечна жыве ў славе.

Асэнсаваньне гэтага гістарычнага факта дапамагае нам зразумець, адкуль мы зьявіліся, для чаго, куды накіроўваемся. Калі Хрыстос уваскрос, мы можам быць упэўнены ў існаваньні Бога, можам ведаць — які Ён, можам пазнаць Яго асабістым досьледам. Калі Хрыстос не ўваскрос і "Калі мы ў гэтым жыцьці спадзяёмся на Хрыста, то мы няшчасьнейшыя за ўсіх чалавекаў"(І Кар. 15 19).

Сёньня нават непрыхільнікі хрысьціянства не аспрэчваюць гістарычнасьць асобы Ісуса Хрыста, Яго жыцьцёвы шлях ад нараджэньня да ўкрыжаваньня. Але яны невыпадкова засяродзілі ўвагу менавіта на пытаньні аб уваскрасеньні, спрабуючы выцягнуць з падмурку вуглавы камень усяе хрысьціянскае веры.

Што можна адказаць гэтым антыхрыстам? Мы маем кнігу Новы Запавет, на старонках якой зарэестравана шэсьць незалежных адно ад аднаго сьведчаньняў аб уваскрасеньні. Тры сьведкі бачылі усё на ўласныя вочы: Іаан, Пётр і Матфей. Апостал Павел, калі пісаў першым царквам, распавядаў аб уваскрасеньні такім чынам, што становіцца зразумелым, што гэта было агульнапрынятым фактам. Можна было б прывесьці шмат іншых доказаў, але спашлёмся на словы знакамітага ангельскага філёзафа Канона Уэсткота:"Сапраўды, узяўшы пад увагу ўсе доказы, можна без перабольшаньня сказаць, што няма іншай гістарычнай падзеі, якая мела б столькі ж пацьверджаньняў, колькі Уваскрасеньне Ісуса Хрыста".

Важна зразумець, што і сёньня хрысьціянская навука зьяўляецца гаючай крыніцай для ўсіх тых, якія цярпяць прасьлед, "вязьняў сумленьня", нявінных ахвяраў дыскрымінацыі, тэрору, войнаў, для тых, што цярпяць голад, нястачу і страты, выкліканыя прыроднымі няшчасьцямі, або самымі людзьмі; хворых, калекаў, сірот — усіх не пералічыш. У кожным зь іх мы павінны бачыць вобраз цярпеньня Хрыста.

Хрыстос, уваскрасіўшы цела, даў нам спаўненьне нашага найбольш запаветнага жаданьня — бессьмяротнасьці. Мы ведаем, што нашым удзелам ёсьць вечнае жыцьцё, хоць, каб асягнуць яго, мы павінны перайсьці, як і Хрыстос, цераз сьмерць. Дык ня дзіва, што хрысьціянскі погляд на чалавека жыцьцярадасны.

Чалавек не зьяўляецца толькі целам: ён не належыць выключна да рэчыўнага сьвету, як цьвердзяць матэрыялісты. Іхняе разуменьне чалавека вельмі супярэчлівае: з аднаго боку чалавек, паводле іх, зьяўляецца вынікам сьляпой эвалюцыі бяздумнага рэчыва; з другога — ён уладар рэчыўнага сьвету, які ён сваім розумам пазнае і падпарадкоўвае сабе. Выглядае нешта нападабенства пены, якая думае (калі б яна магла думаць), што магутная марская хваля, на вярху якой яна зьявілася на хвілінку, каб неўзабаве зьнікнуць бяз сьледу, падпарадкоўваецца ёй.

Каб супрацьстаяць усім бязбожнікам, іхнім лжэнавукам, нам трэба адчуць духоўнае адзінства ўсіх хрысьціянаў. Сімвалічна, што сёлета велікодныя сьвятказаньні прыпадаюць на адзін дзень у каталікоў і праваслаўных. Гэта нагадвае нам, што хоць, на жаль, між намі існуюць паважныя разьбежнасьці, нас лучыць супольнае імя хрысьціянаў. Ці мы балюча адчуваем падзел між намі, быццам раны на целе Хрыста; ці мы шукаем спосабаў залячыць гэтыя раны, ці, наадварот, пасыпаем іх сольлю? Памятайце крык збалелай душы вялікага хрысьціяніна, сьвятога Паўла:"Ці разьдзяліўся Хрыстос?"(І Кар. І 13).

Сёньня з нагоды вялікага і сьветлага дня Уваскрасеньня Хрыстова, больш як ніколі, нам неабходна старацца зразумець сэнс гэтага здарэньня ў гісторыі людскога роду. Хрысьціянства ад самага пачатку мела нямала ворагаў, якія рабілі спробы яму пашкодзіць і нават зьнішчыць. Але ўсе гэтыя спробы няможна параўнаць з тым, што мы перажываем у наш час. Вось ужо больш за 70 год у нашай Бацькаўшчыне пануе магутная палітычная сістэма, у аснову якой пакладзена адмаўленьне існаваньня Бога. Для яе Уваскрослы Хрыстос — найвялікшы вораг, памяць аб якім неабходна сьцерці зь людской сьвядомасьці.

Наш час — гэта час выпрабаваньня і змаганьня за душы людскія. Дык пастараймася ўзброіцца духоўнаю моцаю праз асэнсаваньне нашага жыцьця ў сьвятле Хрыстовага Уваскрасеньня, каб магчы сьмела і рашуча адказаць на ўсялякія нападкі пераможным клічам:

# САПРАЎДЫ ЎВАСКРОС!

# Стварaецца новая партыя.

26 сакавIка ў г.п. Iўе адбыўся сход аргкамIтэту Хрысьцiянска-Дэмакратычнага Саюзу (ХДС). На парадку дня былI наступныя пытаньнI:

1. Выбары старшынI аргкамIтэту;
2. Распрацоўка прыкладнага Статуту I Праграмы ХДС;
3. Выданьне друкаванага органу ХДС;
4. Падрыхтоўка да ўстаноўчага зьезду ХДС.

У аргкамIтэт уваходзIць пяць чалавек.

Вырашана першы нумар газэты выдаць да дня Уваскрасеньня Хрыстова разам зь Iвейскай Радай БНФ.

У адным з блIжэйшых нумароў аргкамIтэт плануе зьмясьцIць прыкладны Статут I Праграму ХДС.

Устаноўчы зьезд хадэцыI намечана правесьцI гэтай восеньню.

Спадзяёмся, што Iдэя духоўнага аб'яднаньня усIх хрысьцIян для удасканаленьня грамадства I чалавека на прынцыпах, закладзеных у ЭвангельлI Божым, знойдзе шырокую падтрымку.

За даведкамI зьвяртайцеся па тэлефонах:
2-11-38 (Iгар КарпIкаў, з 18.00 да 22.00),
2-67-49 (Лявон КелдановIч, з 18.. да 22..).

АргкамIтэт ХДС.

# НЛА НАД IЎЕМ !

9 красавIка а 8 гадзIне вечара многIя жыхары Iўя сталI сьведкамI незвычайнай зьявы. У раёне кансервавага завода ў небе завIс неапазнаны лятаючы аб'ект у выглядзе талеркI сIнусаIдальнай формы. Гэты аб'ект выпучаў сьвятло, рухаўся зь нязьменнай хуткасьцю прыкладна ў накIрунку будынка райвыканкама. Потым раптам узьняўся ўгору I схаваўся ў аблоках. Сьведчаньняў аб кантакце зь IншапланецянамI пакуль што няма.

Хто мае дадатковую Iнфармацыю аб гэтай зьяве, просIм паведамIць у рэдакцыю.

## С У З Я М Е Л Ь Ц Ы

НIНА МАЦЯШ

Мае добрыя людзI,
СуайчыньнIкI,
Сузямельцы...
Вы I цяпер, як калIсь,
Ня так бога баIцеся,
Як начальнIка!
Пазавугальлю толькI
Прынцыповасьць сваю выяўляеце,
Бы хвIгу ў кIшэнI.
Цела недасканалае ваша
Ў руках
Невукаў дыпламаваных,
Крыўда к духу народнага вашага,
Як лIсьцIкам фIгавым,
Хлусьлiва прыкрыта
Плакатнаю дружбай народаў.
Бедныя людзI мае,
Вы I цяпер,
Як за памяцьцю прадзедаў,
Пастаяць за сябе рызыкуеце
ТолькI тады,
КалI вас давядуць да краю.
Што, калI нават гэтыя
ЗернейкI годнасьцI спадчыннай
Па-рабску маўклIва
Памажаце вытруцIць вы
I ў вашых дзецях?
Добрыя людзI мае,
суайчыньнIкI,
сузямельцы...

## У   К Р А I Н Е   Ц У Д А Ў

СЯРГЕЙ ГРАХОЎСКI

У краIне дзIўных цудаў,
Як у храме на крыві,
Хабараў I даўгабудаў,
АлкаголIкаў I юдаў
Век пакутуй, а жывI.

На каго сьпярша малIўся,
ПраклIнаў таго пасьля,
Хто людской крывёй апIўся,
Хто сIлком наверх прабIўся,
Праглынула тых зямля.

Кармчыя I рулявыя
У апантанай барацьбе,
МаразматыкI сIвыя,
Што узносIла стыхIя,
УзнагароджвалI сябе,

ВыхвалялIся, хлусIлI,
АбяцанкамI жылI,
ЗоркI ў два рады насIлI,
Хоць ня жалI, не касIлI,
Смачна елI I пIлI.

Урачыстыя калоны
Iх вIталI, як нIдзе,
Ашуканыя мIльёны
ПрывучылIся штодзённа
Жыць на хлебе I вадзе.

АбвяшчалI рулявыя,
Што жывем шчасьлIва мы,
ТолькI людзI, як нямыя,
ВедалI шляхI прамыя
Ад турмы I да турмы.

У краI суцэльных цудаў,
ДэфIцытаў I пагроз,
Дзе I праведнIк, I Юда,
I тубылец, I прыблуда —
Надзвычайны сIмбIёз.

На адважным павароце
Стала трошачкI сьвятлей,
Хоць пIлюля ў пазалоце
I цяпер гарчыць у роце...

А куды IсьцI далей?



Па гарызанталI:
1. МалIтоўны воклIч у Iудзейскiм I хрысьцIянскIм набажэнстве. 6. Герой старажытнагрэчаскай мIфалогII. 7. Першы чалавек. 8. МалIтва.
Па вертыкалI:
2. Верхняе адзеньне каталIцкага духавенства. 3. НапIтак багоў. 4. IудзейскI цар. 5. Мейсца, дзе знаходзяць шчасьлIвае Iснаваньне душы праведнIкаў пасьля Iх сьмерцI.

Дасылайце нам паштоўкI з рашэньнямI красворда. За правIльныя адказы Вы атрымаеце прыз.

# А Б' Я В А

26 красавIка ў г.п. Iўе адбудзецца мIтынг-рэквIем, прысьвечаны Дню Чарнобыльскай трагедыI. Мяркуецца, што мIтынг-рэквIем будзе праводзIцца на Камсамольскай плошчы а 6 гадзIне вечара.

# ПАГОНЯ

МАКСІМ БАГДАНОВІЧ

ТолькI ў сэрцы трывожным пачую
За КраIну радзIмую жах,
Успомню Вострую Браму Сьвятую
I ваякаў на грозных канях.

У белай пене праносяцца конI,
Рвуцца, імкнуцца I цяжка хрыпяць:
Старадаўняй ЛIтоўскай ПагонI
НI разьбIць, нI спынIць, нI стрымаць.

У бязьмежную даль вы ляцIце,
А за вамI, прад вамI — гады.
Вы за кIм у пагоню сьпяшыце?
Дзе шляхI Вашы йдуць I куды?

Мо' яны, Беларусь, панясьлIся
За тваIмI дзяцьмI ўздагон,
Што забылI Цябе, адраклIся,
ПрадалI I аддалI ў палон?

БIце ў сэрцы Iх,— бIце мячамI,
Не давайце чужынцамI быць!
Хай пачуюць, як сэрца начамI
Аб радзIмай старонцы балIць...

МацI родная, МацI КраIна,
Ня ўсьцIшыцца гэтакI боль!..
Ты прабач, Ты прыймI свайго сына,
За Цябе яму ўмерцI дазволь.

# ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

# БЕЛАРУСКІ НАРОДНЫ ГІМН

Мы выйдзем шчыльнымI радамI
На вольны родны свой прастор,
Хай воля вечна будзе з намI,
А гвалту мы дамо адпор,
дамо адпор.

Няхай жыве магутны, сьмелы
Наш беларускI родны дух,
родны дух,
Штандар наш бел-чырвона-белы
Пакрый сабой народны рух.

На бой за шчасьце I за волю
Народу слаўнага свайго,
Браты, цярпелI мы даволI,
На бой усе да аднаго,
да аднаго.

Імя I сIлу беларуса
Няхай пачуе й бачыць той,
Хто сьмее нам нясьцI прымусы
I першы выклIча на бой!

Браты, да шчасьця мы падходзIм,
Хай гром грымIць яшчэ мацней,
У крывавых муках мы народзIм
Жыцьцё Бацькоўшчыны сваей,
жыцьцё Бацькоўшчыны сваей!

# СТВОРАНА РАДА БНФ.

8 красавIка адбыўся арганIзацыйны сход сяброў БНФ Іўеўскага раёна. Была ўтворана Іўеўская раённая Рада БНФ, у якую ўвайшлI 16 чалавек. На першым пасяджэньнI Рады былI абмеркаваны арганIзацыйныя пытаньнI.

БеларускI Народны Фронт "Адраджэньне" — гэта масавы грамадска-палIтычны рух за ўсталяваньне дэмакратычнага грамадства, за перадачу ўлады ад бюракратыI народу, за лIквIдацыю каманднаа-адмIнIстрацыйнай сIстэмы, за поўную эканамIчную самастойнасьць РэспублIкI, за сацыяльную справядлIвасьцI экалагIчную чысьцIню, за адраджэньне беларускай нацыI на прынцыпах дэмакратыI I гуманIзму, за разьвIцьцё мовы I культуры карэннага насельнIцтва I ўсIх нацыянальных меншасьцяў у БССР, за рэальны суверэнIтэт БеларусI.

БНФ "Адраджэньне" аб'ядноўвае грамадзянаў у БССР I за яе мяжой, якIя дасягнулI 16-гадовага ўзросту, падзяляюць Статут БНФ I падтрымлIваюць яго Праграму, незалежна ад нацыянальнасьцI, партыйнасьцI, веравызнаньня I сацыяльнага становIшча. Вызваленыя партыйныя, камсамольскIя I прафсаюзныя кIраўнIкI могуць быць толькI радавымI сябрамI БНФ.

БНФ складаецца з групаў падтрымкI. Групы падтрымкI (ня менш за 3 чалавекI) ствараюцца па месцы працы, вучобы, службы, жыхарства, у самадзейных аб'яднаньнях, таварыствах, творчых саюзах, кааператывах, прадпрыемствах, калгасах I ўстановах.

Для стварэньня групы падтрымкI БНФ неабходна правесьцI арганIзацыйны сход групы, на якIм выбIраецца яе ўпаўнаважаны кIраўнIк. Група падтрымкI фIксуецца ў раённай Радзе "Адраджэньня" на падставе заявы I пратаколу яе арганIзацыйнага сходу; пры гэтым прадстаўляецца сьпIс сяброў групы.

Структура, форма I план дзейнасьцI групы падтрымкI, якIя павIнны адпавядаць асноўным Ідэям БНФ, вызначаюцца самIмI сябрамI групы.

Галоўныя задачы групы падтрымкI — удзел у рашэньнI мясцовых I агульнанацыянальных праблемаў; рэалIзацыя эканамIчных, сацыяльных, палIтычных, прававых рэформаў, забесьпячэньне дэмакратызацыI, публIчнасьцI ў сваIх калектывах, мястэчках I вёсках, рэальны ўплыў на прыняцьце жыцьцёва важных рашэньняў. Важнае месца ў практычнай дзейнасьцI групаў павIнны займаць асьветнIцтва, праблемы экалогII I культуры.

У межах пэўнай мясцовасьцI некалькI групаў падтрымкI могуць утвараць тэрытарыяльную (сельскую, местачковую) Раду БНФ, вылучыўшы ў яе сваIх упаўнаважаных, выбраць кIраўнIка Рады.

КалI ва ўстанове, на прадпрыемстве, па месцы жыхарства I г.д. ужо Iснуюць групы падтрымкI, прыхIльнIкI БНФ могуць таксама ўступIць у адну зь Iх, падаўшы заяву, якая разглядаецца на сходзе групы.

РэгIстрацыя новых групаў падтрымкI БНФ адбываецца ў раённай Радзе БНФ (часовы адрас)— Іўе, вул. Карла Маркса, Цэнтр вольнага часу "Стары млын". Тэл. 2-24-23 (Юры Гайдук). Кантактныя тэлефоны: 2-63-86 (Алег ІглIцкI), 2-67-49 (Лявон КелдановIч)

АДРАС РЭДАКЦЫI: г.п. Іўе, вул. Карла Маркса, Цэнтр вольнага часу "Стары млын". Гайдуку Ю.І.

Выпуск падрыхтавалI Юры Гайдук, Ігар КарпIкаў, Лявон КелдановIч.